СОЦИАЛЬНОЕ ОБЕСПЕЧЕНИЕ гл. обеспечение
СПЕЦИАЛИЗИРОВАННАЯ ОРГАНИЗАЦИЯ гл. организация
СПЕЦИАЛЬНЫЙ ССУДНЫЙ СЧЁТ гл. счёт
СПИСАННАЯ СУММА гл. сумма
СПОР спрэчка; СПОР СТОРОН спрэчкі бакоў; ПРАВОВОЙ СПОР прававая спрэчка
СРЕДНЕЕ ОБЩЕЕ ОБРАЗОВАНИЕ гл. образование
СРЕДНЕЕ СПЕЦИАЛЬНОЕ ОБРАЗОВАНИЕ гл. образование
СРЕДНЕЕ СПЕЦИАЛЬНОЕ УЧЕБНОЕ ЗАВЕДЕНИЕ гл. заведение
СРЕДНЕМЕСЯЧНЫЙ ЗАРАБОТОК гл. заработок
СРЕДСТВА сродкі; БЮДЖЕТНЫЕ СРЕДСТВА бюджэтныя сродкі; ГОСУДАРСТВЕННЫЕ СРЕДСТВА дзяржаўныя сродкі; НАЛИЧНЫЕ СРЕДСТВА наяўныя сродкі
СРОК тэрмін; ГАРАНТИЙНЫЙ СРОК гарантыйны тэрмін; ИСПЫТАТЕЛЬНЫЙ СРОК выпрабавальны тэрмін; СРОК ИСПОЛНЕНИЯ тэрмін выканання
СРОЧНАЯ ССУДА гл. ссуда
СРОЧНЫЙ ВКЛАД гл. вклад
ССУДА пазыка; БАНКОВСКАЯ ССУДА банкаўская пазыка; БЕСПРОЦЕНТНАЯ ССУДА беспрацэнтная пазыка; ДОЛГОСРОЧНАЯ ССУДА даўгатэрміновая пазыка; КРАТКОСРОЧНАЯ ССУДА кароткатэрміновая пазыка; ПОГАСИТЬ ССУДУ пагасіць пазыку; ПОГАШЕНИЕ ССУДЫ пагашэнне пазыкі; ПРЕДОСТАВИТЬ ССУДУ даць пазыку; СРОЧНАЯ ССУДА тэрміновая пазыка
СТАВКА стаўка; ДИФФЕРЕНЦИРОВАННЫЕ СТАВКИ дыферэнцаваныя стаўкі; НАЛОГОВЫЕ СТАВКИ падатковыя стаўкі
СТАЖ стаж; БЕСПРЕРЫВНЫЙ СТАЖ бесперапынны стаж ; ОБЩИЙ СТАЖ РАБОТЫ агульны стаж работы; ПРЕРВАННЫЙ СТАЖ перапынены стаж; ТРУДОВОЙ СТАЖ працоўны стаж
СТАТИСТИЧЕСКАЯ ОТЧЕТНОСТЬ гл. отчетность
СТЕПЕНЬ ступень; УЧЕНАЯ СТЕПЕНЬ вучоная ступень
СТОИМОСТЬ кошт; ОТПУСКНАЯ СТОИМОСТЬ адпускны кошт
СТРАХОВАНИЕ страхаванне; ГОСУДАРСТВЕННОЕ СТРАХОВАНИЕ дзяржаўнае страхаванне; ИМУЩЕСТВЕННОЕ СТРАХОВАНИЕ маёмаснае страхаванне; ЛИЧНОЕ СТРАХОВАНИЕ асабістае страхаванне; ОБЯЗАТЕЛЬНОЕ СТРАХОВАНИЕ абавязковае страхаванне; СМЕШАННОЕ СТРАХОВАНИЕ змешанае страхаванне
СТРАХОВАТЕЛЬ страхавальнік
СТРАХОВАЯ ГАРАНТИЯ гл. гарантия
СТРАХОВАЯ СУММА гл. сумма



СТРАХОВОЕ АГЕНТСТВО гл. агентство
СТРАХОВОЕ ВОЗМЕЩЕНИЕ гл. возмещение
СТРАХОВОЕ ОБЯЗАТЕЛЬСТВО гл. обязательство
СТРАХОВОЙ ВЗНОС гл. взнос
СУД суд; ВЕРХОВНЫЙ СУД Вярхоўны суд; НАРОДНЫЙ СУД народны суд
СУДЕБНЫЕ ИЗДЕРЖКИ гл. издержки
СУДЕБНЫЕ ПРЕНИЯ гл. прения
СУДЕБНЫЙ ИСК гл. иск
СУДОПРОИЗВОДСТВО судаводства
СУММА сума; НЕОПЛАЧЕННАЯ СУММА неаплачаная сума; НЕСПИСАННАЯ СУММА няспісаная сума; ОПЛАЧЕННАЯ СУММА аплачаная сума; СПИСАННАЯ СУММА спісаная сума; СТРАХОВАЯ СУММА страхавая сума; СУММА С ПЕНЕЙ сума с пеняй; СУММА ПРОПИСЬЮ сума прапіссю
СЧЁТ рахунак; ДЕБЕТУЕМЫЙ СЧЁТ дэбетуемы рахунак; ЗАЧИСЛЕНИЕ НА СЧЁТ залічэнне на рахунак; ЛИЦЕВОЙ СЧЁТ асабовы рахунак; РАСЧЁТНЫЙ СЧЁТ разліковы рахунак; СПЕЦИАЛЬНЫЙ ССУДНЫЙ СЧЁТ спецыяльны пазыковы рахунак; СЧЁТ ПОЛУЧАТЕЛЯ рахунак пакупніка; ТЕКУЩИЙ СЧЁТ бягучы рахунак
СЫРЬЁ сыравіна

## Т

ТАБЕЛЬНЫЙ НОМЕР гл. номер
ТАБЕЛЬЩИК табельшчык
ТАЙНОЕ ГОЛОСОВАНИЕ гл. голосование
ТАРИФНЫЙ РАЗРЯД гл. разряд
ТЕКУЩАЯ ЗАДОЛЖЕННОСТЬ гл. задолженность
ТЕКУЩИЕ ПЛАТЕЖИ гл. платеж
ТЕКУЩИЙ цяперашні, бягучы
ТЕКУЩИЙ СЧЁТ гл. счёт
ТЕЛЕГРАФНЫЙ ПЕРЕВОД гл. перевод
ТЕХНИЧЕСКАЯ ПОМОЩЬ гл. помощь
ТЕХНИЧЕСКИЙ ИНСПЕКТОР гл. инспектор
ТЕХНИЧЕСКОЕ СОТРУДНИЧЕСТВО гл. сотрудничество
ТИПОВОЙ тыповы
ТИПОВОЙ ДОГОВОР гл. договор
ТОВАРНО-МАТЕРИАЛЬНЫЕ ЦЕННОСТИ гл. ценности
ТОВАРНЫЙ АУКЦИОН гл. аукцион
ТОВАРНЫЙ ЗНАК гл. знак

ТОРГОВОЕ ПРАВО гл. право

ТРАВМА траўма; БЫТОВАЯ ТРАВМА бытавая траўма; ПРОИЗВОДСТВЕННАЯ ТРАВМА траўма на вытворчасці

ТРЕБОВАНИЕ патрабаванне; ВСТРЕЧНОЕ ТРЕБОВАНИЕ сустрэчнае патрабаванне; ПЛАТЁЖНОЕ ТРЕБОВАНИЕ плацёжнае патрабаванне

ТРУД праца; МЕТОДИЧЕСКИЕ ТРУДЫ метадычныя працы; НАУЧНЫЕ ТРУДЫ навуковыя працы

ТРУДОВАЯ КНИЖКА гл. книжка

ТРУДОВОЙ ДОГОВОР гл. договор

ТРУДОВОЙ КОЛЛЕКТИВ гл. коллектив

ТРУДОВОЙ СТАЖ гл. стаж

ТРУДОСПОСОБНОСТЬ працаздольнасць

ТРУДОУСТРОЙСТВО працаўладкаванне

## У

УБЫТКИ страты

УВОЛЕН звольнены

УВОЛЬНЕНИЕ звальненне; УВОЛЬНЕНИЕ С РАБОТЫ звальненне з работы

УДЕРЖАНИЯ утрыманні, вылічэнні; УДЕРЖАНИЯ ИЗ ЗАРАБОТНОЙ ПЛАТЫ утрыманні (вылічэнні) з заработнай платы

УДЕРЖАНО утрымана

УДОСТОВЕРЕНИЕ пасведчанне; КОМАНДИРОВОЧНОЕ УДОСТОВЕРЕНИЕ камандзіровачнае пасведчанне

УПЛАЧЕНО заплачана

УСЛОВИЯ ПЛАТЕЖА гл. платёж

УСЛУГИ паслугі; ОКАЗАННЫЕ УСЛУГИ аказаныя паслугі;

УСПЕВАЕМОСТЬ паспяховасць; АКАДЕМИЧЕСКАЯ УСПЕВАЕМОСТЬ акадэмічная паспяховасць

УТВЕРЖДАЮ зацвярджаю

УХОД выхад; ПРЕЖДЕВРЕМЕННЫЙ УХОД С РАБОТЫ заўчасны адыход з работы

УЧЕБНОЕ ЗАВЕДЕНИЕ гл. заведение

УЧЕНАЯ СТЕПЕНЬ гл. степень

УЧЁНОЕ ЗВАНИЕ гл. звание

УЧЁТ улік; ПОДЛЕЖАЩИЙ УЧЁТУ падлеглы (які падлягае) уліку

УЧЕТНЫЕ ЦЕНЫ гл. цена

УЧИЛИЩЕ вучылішча; ПРОФЕССИОНАЛЬНО-ТЕХНИЧЕСКОЕ УЧИЛИЩЕ прафесійна-тэхнічнае вучылішча



УЧРЕЖДЕНИЕ установа

## Ф

ФАКТИЧЕСКАЯ НАГРУЗКА гл. нагрузка

ФАКТИЧЕСКАЯ СЕБЕСТОИМОСТЬ гл. себестоимость

ФАМИЛИЯ прозвішча

ФЕВРАЛЬ люты

ФИНАНСОВАЯ ПОМОЩЬ гл. помощь

ФОНД фонд; ЗЕМЕЛЬНЫЙ ФОНД зямельны фонд; ПОЧАСОВОЙ ФОНД пагадзінны фонд

## Х

ХОДАТАЙСТВО хадайніцтва

ХОЗРАСЧЁТ гасразлік

ХОЗЯЙСТВЕННЫЙ ДОГОВОР гл. договор

ХОЗЯЙСТВЕННЫЙ РАСЧЁТ гл. расчёт

ХОЗЯЙСТВО гаспадарка; ПОДСОБНОЕ ХОЗЯЙСТВО дапаможная (падсобная) гаспадарка

## Ц

ЦЕНА цана; ОПТОВЫЕ ЦЕНЫ аптовыя цэны; РОЗНИЧНЫЕ ЦЕНЫ рознічныя цэны; УЧЁТНЫЕ ЦЕНЫ учотныя (падлікавыя) цэны

ЦЕННОСТИ каштоўнасці; ВАЛЮТНЫЕ ЦЕННОСТИ валютныя каштоўнасці; ИМУЩЕСТВЕННО-МАТЕРИАЛЬНЫЕ ЦЕННОСТИ маёмасна-матэрыяльныя каштоўнасці; РЕАЛИЗАЦИЯ МАТЕРИАЛЬНЫХ ЦЕННОСТЕЙ рэалізацыя матэрыяльных каштоўнасцей; ТОВАРНО-МАТЭРЫЯЛЬНЫЯ ЦЕННОСТИ таварна-матэрыяльныя каштоўнасці

ЦЕНТРАЛЬНЫЙ БАНК гл. банк

## Ч

ЧАСТНАЯ СОБСТВЕННОСТЬ гл. собственность

ЧЕК чэк; БАНКОВСКИЙ ЧЕК банкаўскі чэк; ПОГАШЕННЫЙ ЧЕК пагашаны чэк; РАСЧЁТНЫЙ ЧЕК разліковы чэк; ЧЕК НА ПРЕДЪЯВИТЕЛЯ чэк на прад'яўніка

Ш

ШТАТНЫЕ РАБОТНИКИ гл. работник
ШТРАФ штраф

Э

ЭКЗАМЕН экзамен; ГОСУДАРСТВЕННЫЙ ЭКЗАМЕН дзяржаўны экзамен
ЭКОНОМИЧЕСКАЯ ПОМОЩЬ гл. помощь
ЭКОНОМИЧЕСКОЕ СОТРУДНИЧЕСТВО гл. сотрудничество
ЭКСПЕРТИЗА экспертыза; ЗАКЛЮЧЕНИЕ ЭКСПЕРТИЗЫ заключэнне экспертызы
ЭМИССИОННЫЙ БАНК гл. банк

Я

ЯНВАРЬ студзень



## РАЗДЗЕЛ ІІ

# ПІСЬМОВЫЯ ШТАМПЫ

## У ПАЧАТКУ ПІСЬМА

| | |
|---|---|
| Уважаемые господа, мы получили Ваше письмо от... | **Шаноўныя Спадары (Панове), мы атрымалі Ваш ліст (Ваша пісьмо) ад...** |
| Благодарим за письмо от... | **Дзякуем за ліст (пісьмо) ад...** |
| Ваше письмо с приложением (с указанием, просьбой о...) | **Ваш ліст (Ваша пісьмо) з дадаткам (з указаннем, просьбай аб...)** |
| В ответ на Ваше письмо от... | **У адказ на Ваш ліст (Ваша пісьмо) ад** |
| В подтверждение нашего (их) телефонного разговора (переговоров, состоявшихся в...) сообщаем, что... | **Пацвярджаючы нашу (ыя) тэлефонную размову (перамовы, якія адбыліся ў ...), паведамляем, што...** |
| Ссылаясь на наше письмо от... сообщаем, что... | **Спасылаючыся на наш ліст (пісьмо) ад ...) паведамляем, што...** |
| Рады сообщить Вам, что... | **З задавальненнем паведамляем Вам, што...** |
| К сожалению, вынуждены напомнить Вам, что... | **На жаль, вымушаны напомніць Вам, што...** |
| Из Вашего письма мы узнали, что... | **З Вашага ліста (пісьма) мы даведаліся, што...** |
| Приносим извинения за некоторую задержку с ответом на Ваше письмо | **Выбачайце, калі ласка, за некаторую затрымку з адказам на Ваш ліст (пісьмо)** |
| Пожалуйста, примите наши извинения за... | **Калі ласка, выбачайце нам за...** |
| К сожалению, мы не можем удовлетворить Вашу просьбу о... | **На жаль, мы не можам задаволіць Вашу просьбу аб...** |
| В дополнение к нашему письму от... | **У дадатак да нашага ліста (пісьма) ад...** |

| | |
|---|---|
| Мы вынуждены напомнить Вам, что... | Мы вымушаны напомніць Вам, што... |
| Вам, несомненно, известно, что... | Вам, несумненна, вядома, што... |
| Прилагаем копию письма фирмы в связи с... | Дадаем копію пісьма фірмы ў сувязі з... |
| Просим принять во внимание, что... | Просім прыняць да ведама, што... |

## ДЛЯ СУВЯЗІ ЭЛЕМЕНТАЎ ПІСЬМА

| | |
|---|---|
| Мы выражаем уверенность в том, что... | Мы выражаем упэўненасць у тым, што... |
| Одновременно хотели бы Вам напомнить, что... | Адначасова хацелі б Вам напомніць, што... |
| Считаем необходимым (важным, целесообразным) отметить... | Лічым неабходным (важным, мэтазгодным) адзначыць... |
| Помимо вышеуказанного... | Акрамя вышэйсказанага... |
| В дополнение к вышесказанному... | У дадатак да вышэйсказанага... |
| Пользуясь возможностью напомнить, что... | Карыстаючыся магчымасцю напомніць, што... |
| Обращаем Ваше внимание на тот факт, что... | Звяртаем Вашу ўвагу на той факт, што... |
| Ввиду вышеизложенного... | У сувязі з вышэйвыкладзеным... |
| В связи с этим... | У сувязі з гэтым... |
| В связи с Вашей просьбой | У сувязі з Вашай просьбай... |
| В связи с вышеизложенным... | У сувязі з вышэйсказаным... |
| Что касается Вашей просьбы (Вашего заказа, Вашей претензии) | Што датычыць Вашай просьбы (Вашага заказа, Вашай прэтэнзіі)... |
| Дело в том, что... | Справа ў тым, што... |
| В сложившихся обстоятельствах... | Пры дадзеных абставінах... |
| По нашему мнению... | На нашу думку.. |
| В соответствии с Вашей просьбой... | У адпаведнасці з Вашай просьбай... |
| Мы не испытываем никаких затруднений с... | Мы не маем ніякіх цяжкасцей з... |
| Мы испытываем затруднения с... | Мы маем цяжкасці з... |



| | |
|---|---|
| Необходимо признать, что... | Неабходна прызнаць, што... |
| До сих пор мы не получили ответа... | Да гэтага часу мы не атрымалі адказу... |
| Мы не согласны с Вашей точкой зрения... | Мы не згаджаемся з Вашым пунктам гледжання... |
| В случае Вашего отказа... | У выпадку Вашага адмаўлення... |
| В случае неуплаты... | У выпадку нявыплаты... |
| Во избежание задержки в... | Каб пазбегнуць затрымкі ў... |
| В соответствии с прилагаемым контрактом... | У адпаведнасці з кантрактам, які дадаецца... |
| В Вашем письме Вы заявляете, что... | У Вашым лісце (пісьме) Вы заяўляеце, што... |
| Далее Вы пишете... | Далей Вы пішаце... |
| Более того... | Больш таго... |
| Тем не менее... | Тым не менш... |
| В первую очередь... | У першую чаргу... |
| Фактически... | Фактычна... |
| Кроме того... | Акрамя таго.... |

## У КАНЦЫ ПІСЬМА

| | |
|---|---|
| Мы будем признательны за быстрый ответ | Мы будзем удзячныя за хуткі адказ |
| Просим обращаться к нам, если Вам потребуется помощь | Просім звяртацца да нас, калі Вам спатрэбіцца дапамога |
| Надеемся получить Ваш ответ в ближайшем будущем | Спадзяемся атрымаць Ваш адказ у бліжэйшым будучым |
| Просим сообщить нам как можно скорее | Просім паведаміць нам як мага хутчэй |
| По получении письма просим телеграфировать (сообщить телексом) подтверждение (согласие) | Пасля атрымання пісьма просім тэлеграфаваць (паведаміць тэлексам) пацвярджэнне (згоду) |
| Мы хотели бы заверить Вас... | Мы хацелі б запэўніць Вас... |

Надеемся поддерживать сотрудничество с Вами

Спадзяемся падтрымліваць супрацоўніцтва з Вамі

Будем признательны за быстрое выполнение нашего заказа

Будзем удзячныя за хуткае выкананне нашага заказу

Ждем приезда Ваших представителей для дальнейших переговоров

Чакаем прыезду Вашых прадстаўнікоў для далейшых перагавораў

Ожидаем Вашего согласия (одобрения, подтверждения)

Чакаем Вашай згоды (адабрэння, пацвярджэння)



## РАЗДЗЕЛ III

# СЛУЖБОВАЯ ПЕРАПІСКА

## ГАРАНТЫЙНЫЯ ПІСЬМЫ

Завод „Гомсельмаш" просіць Вас аказаць тэхнічнае садзеянне па распрацоўцы рабочых чарцяжоў помпавай станцыі. З-за таго, што зараз вядзецца мантаж, просім выканаць гэтую працу непасрэдна на пляцоўцы.

Калі ласка, у самыя сціслыя тэрміны вызначце кошт праектных работ і заключыце з намі дамоўленасць, а праектныя работы пачніце не адкладваючы, тэрмінова. Аплату іх кошту завод гарантуе са свайго рахунку №__________ у ______________________________

Дырэктар завода ____________________
подпіс

Гл. бухгалтар ____________________
подпіс

x x x

Гарантуем, што пастаўленае па заказу ІУ ... ад __________ 19__ г. абсталяванне поўнасцю адпавядае апісанню, тэхнічным умовам і спецыфікацыі заказу.

Калі на працягу 12 месяцаў з дня пуску ў эксплуатацыю і не больш за 24 месяцы з дня адгрузкі абсталяванне стане дэфектным або па канструкцыі, або з-за недабраякаснага матэрыялу, мы абяцаем у самы сціслы тэрмін ліквідаваць усе недахопы за наш кошт або замяніць абсталяванне бясплатна.

## ПІСЬМО-ЗАПЫТ(АННЕ)

Згодна загаду № 13 ад 13.01.90 г. у нашу ўстанову была ўзята на працу Халімонава П. І.

За дзень да пачатку адзначанай працы – 13.01.90 г. падчас прагулкі з малалетнім сынам у парку культуры і адпачынку г. Гомеля сп. Халімонаву П. І. збіў веласіпедыст, і яна атрымала траўму чэрапа з патрасеннем мазгоў і пераломам трох рабрын, з-за чаго яна была на лячэнні ў бальніцы да 13.05.90 г., пасля чаго падала нам для аплаты лісток непрацаздольнасці па хваробе № 134173 ад 13.05.90 г.

Таму што Халімонава П. І. да атрымання названай траўмы два тыдні нідзе не працавала і ў нас таксама не мела ніякага заробку, просім растлума-

чыць:

1. Ці мае Халімонава П. І. права на атрыманне на нашым прадпрыемстве (установе) дапамогі з-за часовай непрацаздольнасці?

2. Калі ў яе ёсць такое права, то з якога разліку ёй неабходна налічваць дапамогу па лістку непрацаздольнасці?

Дырэктар

Старшыня прафкама

## ПІСЬМЫ-ЗАПРОСІНЫ

Вельмі – шаноўны Язэп Восіпавіч!

16 сакавіка г.г. у 12 гадзін у канферэнцзале нашага інстытута адбудзецца абмеркаванне праекта новай лініі тэлеперадачы.

Улічваючы Ваш вялікі ўклад у развіццё тэхнічнага прагрэсу ў прамысловасці, накіроўваю Вам праект і запрашаю ўзяць чынны ўдзел у ягоным абмеркаванні.

Калі вы не зможаце ўдзельнічаць у абмеркаванні, калі ласка, дашліце Вашыя заўвагі і прапановы на адрас: 200000, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 11; Беларуская палітэхнічная акадэмія.

Старшыня Вучонага савета акадэміі Кулік І. Я.

x x x

Арганізацыйны камітэт і аб'яднанне „Экспацэнтр" ТВВ Рэспублікі Беларусі запрашаюць Вас наведаць міжнародную спецыялізаваную выставу „Эканомія матэрыяльных і паліўна-энергетычных рэсурсаў".

Выстава працуе з 8 мая па 8 чэрвеня 19 г. штодзённа з 10 да 18 гадзін у Рэспубліканскім выставачным павільёне па пр. Машэрава.

## ІНФАРМАЦЫЙНЫЯ ПІСЬМЫ

Гомельскі дзяржаўны універсітэт плануе ў маі 19 г. правесці навукова-практычны семінар на тэму „Гісторыя, сучасны стан і перспектывы развіцця гістарычнай навукі Беларусі".



Мэта семінара – абмеркаванне тэарэтычных пытанняў і абагульненне вопыту практычнай працы ў названай галіне. Семінар арыентаваны на гісторыкаў, археолагаў, працаўнікоў архіваў, краязнаўцаў.

На семінары мяркуецца разгледзець наступныя пытанні:

______________________________________________

______________________________________________

______________________________________________

______________________________________________

Запрашаем Вас узяць удзел у навукова-практычным семінары і выступіць з дакладам (паведамленнем). Даклады, якія ўяўляюць найбольшую цікавасць, увойдуць у зборнік навуковых прац, выданне якога плануецца на 19 г.

Звесткі аб удзеле ў семінары, а таксама тэму плануемага выступлення просім паведаміць да 1.02.19 г. на адрас: 100001, Гомель, вул. К. Тураўскага, 104, дзяржуніверсітэт імя Ф. Скарыны, кафедра гісторыі Беларусі.

Тэлефоны для даведак: 56-05-41.

x x x

Продаж футра адбудзецца на аўкцыёнах Пецярбурга, Масквы, Мінску, а таксама са складоў фірмы „Аліса" ва ўказаных гарадах.

Знешнегандлёвае аб'яднанне фірмы праводзіць тры міжнародныя аўкцыёны футра ў год: студзені, ліпені і кастрычніку. Аб'яднанне заключае кантракты на продаж замежных футравых тавараў з пецярбургскіх міжнародных футравых аўкцыёнаў на камісійных умовах.

Аб'яднанне імпартуе футравыя вырабы, скураную сыравіну, краст з буйной скуранай сыравіны, хромавы паўфабрыкат, гатовую скуру для верху абутку, розныя віды штучнай скуры для абутку, галантарэі, пальчатак.

## ПІСЬМЫ-НАПАМІНКІ

Напамінаем Вам, што згодна з планам сумесных работ па ______________

______________________________________________

Вы павінны ____________________________________

______________________________________________

Прапануем Вам не пазней, як ______________ закончыць

прадугледжаныя планам работы.

x x x

Напамінаем Вам, што ў адпаведнасці з ______________

______________ дамоўленасці № ______________
умовамі, пунктамі

ад ______________ па ______________ Вы павінны ______________

______________ тэрмінова паведаміць

нам пра стан справы.

x x x

Паўторна давожу да Вашага ведама, што мантаж збожжасховішча затрымліваецца з-за адсутнасці мацавальных дэталяў.

x x x

Яшчэ раз прашу паскорыць будаўніцтва падвальнай часткі будынку, таму што затрымліваюцца будаўнічыя работы па закладцы тарцавой сцяны.

x x x

Нягледзячы на неаднаразовыя напамінкі, Ваш завод да гэтага часу не падаў на зацвярджэнне тэхпрамфіну план на будучы год. Прашу прадставіць

указаны матэрыял не пазней, як ______________

x x x

Напамінаем, што Ваша запазычанасць па аплаце працазатрат па дамоўленасці № ________ складае ________ тыс. руб. Просім тэрмінова перавесці названую суму на наш разліковы рахунак.

x x x



З удзячнасцю паведамляем, што Ваша пісьмо з каталогамі атрымалі і накіравалі гэты інфармацыйны матэрыял для разгляду нашым заказчыкам.

У выпадку іх зацікаўленасці да вырабаў Вашай фірмы мы паведамім Вам пра гэтае дадаткова.

x x x

З удзячнасцю пацвярджаем атрыманне Вашага заказу і прыступаем да яго выканання.

x x x

Пацвярджаем згоду з Вашымі ўмовамі паставак абсталявання.

## ПІСЬМЫ-ПАВЕДАМЛЕННІ

Адказваючы на Ваш ліст ад 1.09.91 г., паведамляем, што, на жаль, мы не маем магчымасці даслаць Вам каталог набораў мэблі, таму што ён яшчэ знаходзіцца ў друку.

Даводзім да Вашага ведама, што для аказання тэхнічнай дапамогі БМЦ-34 у будаўніцтве школы кіраўніцтва трэста вырашыла выдзяляць штодня два самазвалы і аўтакран.

x x x

Паведамляем Вам, што запытаныя Вамі копіі рахункаў № 018937 будуць дасланы ў самы блізкі час.

x x x

У адказ на Вашу тэлеграму ад ______________

паведамляем, што затрымка пры адгрузцы ______________

______________ адбылася з-за
назва тавараў

узніклых цяжкасцяў у вырабу гэтага тавару.

Прымаем усе меры для найхутчэйшай пастаўкі тавару і мяркуем, што

здолеем адгрузіць яго ў тэрмін да ______________

x x x

Вам неабходна не пазней ______________ 19 г.

даць свае пісьмовыя тлумачэнні, прыклаўшы ўсе неабходныя дакументы.

У выніку адсутнасці Вашых тлумачэнняў у вызначаны тэрмін спрэчка будзе разгледжана і вырашана на падставе матэрыялаў, прадстаўленых істцом.

Пасяджэнне па справе адбудзецца ______________________ 19 г.

у ______________________ гадзін.

## ПІСЬМЫ-ПАЦВЕРДЖАННІ

### Пра атрыманне дакументацыі.

Пацвярджаем атрыманне запрошанай намі дакументацыі. Дзякуем за хуткае выкананне заказа.

х х х

Пацвярджаем атрыманне Вашага пісьма. Наша рашэнне паведамім

да ______________________

х х х

Пацвярджаем атрыманне спецыфікацый на лініі сельгасмашын і абсталявання. Гатовыя да супрацоўніцтва і далей.

Мы атрымалі Вашае (у) ______________________
факс, пісьмо, тэлеграму

у якім(ой) Вы паведамляеце пра тое, што ______________________

______________________

Дзякуем Вам за своечасовы адказ.

х х х

Пацвярджаем атрыманне Вашага пісьма ад ______________________,

у якім Вы просіце ______________________.

Са шкадаваннем паведамляем, што цяпер завод мае вялікія цяжкасці па выкананні гэтага задання і не зможа выканаць Вашу просьбу.

х х х

Мы атрымалі Вашую тэлеграму, дзе вы паведамляеце, што ўсе машыны паспяхова прайшлі выпрабаванне ў аб'ёме тэхнічных умоў і прынятыя АТК завода.

Дзякуем за своечасовы адказ.



## ПІСЬМЫ-ПРОСЬБЫ

### Пра ўключэнне ў план выдавецтва

Прашу ўключыць у план інфармацыйных выданняў на 19—год аналітычны агляд „Фізіка-хімічныя ўласцівасці волава" (аўтары Скарынкін А. П., Міцкевіч І. А.). Аб'ём працы 90 старонак. Рукапіс будзе прадстаўлены ў ІІ квартале 19 г.

Дадатак: анатацыя агляду на І аркуш у І экз.

### Пра пасылку каталогаў

Прашу выслаць на наш адрас па адным экземпляры Вашых ілюстраваных каталогаў набору мэблі, рэкламаваных Вамі ў часопісе „Салон".

Аплата гарантуецца.

### Пра атрыманне інфармацыі

У сувязі з выкарыстаннем новай тэхналогіі ўборкі збожжа просім выслаць падрабязнейшую інфармацыю пра лінію сельскагаспадарчых машын і абсталявання.

### Пра пасылку дакументацыі

Просім даслаць неабходную дакументацыю: інструкцыі па эксплуатацыі машын апошняй мадэлі па разборцы-зборцы з указаннем агульнага аб'ёму працы ў чалавека-гадзінах, патрэбных для зборкі машыны, каталог запасных частак.

### Пра пасылку прэйскурантаў

Просім выслаць прэйскуранты ў трох экземплярах на выпрабленае Вашай фабрыкай (заводам) абсталяванне.

### Пра аплату інкаса

На жаль, да апошняга часу не аплочана наша інкаса № ____________ у суме ______________ за пастаўку тавараў па кантракту № ________ да ________

Просім тэрмінова аплаціць і паведаміць нам дату аплаты.

## СУПРАВАДЖАЛЬНЫЯ ПІСЬМЫ

### Пра атрыманне інфармацыі

Высылаем дадатковыя тэхнічныя звесткі, якія адносяцца ліній сельскагаспадарчых машын і абсталявання. Па атрыманні просім пацвердзіць.

х х х

У адказ на Вашу просьбу высылаем зацікавіўшыя Вас каталогі набораў мэблі.

Дадатак: 5 каталогаў набораў мэблі ў 1 экз.

х х х

На падставе нашай дамоўленасці высылаем асобным пакетам узоры льну.

х х х

У пацверджанне нашай тэлефоннай размовы, якая адбылася_________, высылаем падрабязнае апісанне аўтаматычных сістэм кіравання.

х х х

Накіроўваем копію пратакола нарады па пытанні________________

____________________________________________________________

і таксама__________________________________________________

Просім гэтыя дакументы падпісаць і заверыць пячаткаю і адзін экземпляр накіраваць на наш адрас.

х х х

Накіроўваем заяўку на________________________________________

неабходнае нашаму заводу ў 19___ г. і для___________________________

х х х

Высылаем перадплатаю______________________________________

Вяртаем праект____________________________________________

на____________________стр. з наступнымі заўвагамі:______________



____________________________________________________________

х х х

Накіроўваем пратаколы выпрабаванняў___________________________

Выпрабаванне паказала наступныя вынікі:_________________________

____________________________________________________________

х х х

У адпаведнасці з нашай дамоўленасцю (Вашаю просьбаю) накіроўваем (высылаем, дасылаем)____________________________________________

____________________________________________________________

### Пісьмо суправаджальнае да неінкасуемых рахункаў

Начальніку_________________________

Горад______________________________

Пры адгрузцы Вам матэрыялаў на суму менш___________________руб.

мы пазбаўлены магчымасці выставіць рахункі інкаса. Дасылаем Вам іх для аплаты праз пералічэнне:

№__________________ад_____________на_______________руб.__________кап.

На агульную суму_____________________________руб._______________кап.

Просім неадкладна аплаціць названыя рахункі праз пералічэнне на наш разліковы рахунак №_______________у_______________г. Мінска ў________ тэрмін.

## РАЗДЗЕЛ ІУ

# ПРЫВАТНЫЯ ДЗЕЛАВЫЯ ПАПЕРЫ

## АЎТАБІЯГРАФІЯ

**Аўтабіяграфія – апісанне свайго жыццёвага шляху.**

### *АЎТАБІЯГРАФІЯ*

Я, Кісялёва Вера Антонаўна, нарадзілася 19 лютага 1945 года ў г. Мінску ў сям'і рабочых. Бацькі мае – Кісялёў Антон Пятровіч і Кісялёва Валянціна Іванаўна працавалі на Мінскім трактарным заводзе, а цяпер з'яўляюцца пенсіянерамі.

У 1953 г. я пайшла ў 1 клас Мінскай сярэдняй школы № 23, якую і закончыла з сярэбраным медалём у 1963 годзе.

Пасля гэтага два гады (з 1963 па 1965) працавала на Мінскім трактарным заводзе чарцёжніцай-капіравальшчыцай. У 1965 г. я паступіла вучыцца ў Беларускі палітэхнічны інстытут на будаўнічы факультэт па спецыяльнасці „Эканоміка будаўніцтва", які закончыла ў 1970 г.

Пасля заканчэння інстытута па сённяшні дзень працую на Мінскім трактарным заводзе ў планава-эканамічным аддзеле, спачатку эканамістам, а з 1980 г. – старшым эканамістам.

Замужам, маю дваіх дзяцей – сына Аляксандра – 1971 г.н. і дачку Ірыну – 1976 г.н.

## ДАВЕРАНАСЦЬ

**Даверанасць – дакумент, які дае права дзейнічаць ад імя асобы, якая выдала яго, даручэнне.**

### *ДАВЕРАНАСЦЬ*

Я, Загалавец Наталля Аляксееўна, даручаю Фёдаравай Марыне Васільеўне атрымаць у касе завода „Белэмальпосуд" належную мне зарплату за чэрвень 1992 г.

Даверанасць сапраўдная да 2 верасня 1992 г.

15 чэрвеня 1992 г. **Н. А. Загалавец**

Подпіс рабочай Загалавец Н. А. завяраю:

Начальнік аддзела кадраў Подпіс

16 чэрвеня 1992 г.

М. П.



### *ДАВЕРАНАСЦЬ*

Я, Макарава Таццяна Паўлаўна, давяраю свайму сыну Макараву Сяргею Пятровічу карыстацца маім асабістым аўтамабілем маркі ВАЗ 21011 нумар 60 – 34 ГСН на працягу трох месяцаў, з 20 чэрвеня 1992 г. па 20 верасня 1992 г.

Даверанасць сапраўдная да 20 верасня 1992 г.

12 чэрвеня 1992 г. **Т. П. Макарава**

Подпіс Макаравай Т. П. завяраю:

Натарыус Савецкага р-на г. Гомеля Подпіс

М. П.

### *ДАВЕРАНАСЦЬ*

Я, Саснова Марыя Іванаўна, студэнтка філалагічнага факультэта Гомельскага універсітэта імя Ф. Скарыны, давяраю Чугай Ірыне Пятроўне атрымаць на пошце пасылку, дасланую на маё імя.

19 ліпеня 1992 г. **М. І. Саснова**

Подпіс студэнткі Сасновай М. І. завяраю:

Дэкан філалагічнага факультэта

Гомельскага універсітэта Подпіс

20 ліпеня 1992 г.

М. П.

## ЗАЯВА

**Заява – дакумент, у якім выкладаецца пэўная просьба.**

Дырэктару калгаса „Міжрэчча"

Семенчука Антона Кірылавіча,

які пражывае ў п. Клін

### *ЗАЯВА*

Прашу прыняць мяне на работу столярам У разраду.

25 мая 1992 г. А. К. Семянчук

Рэктару Гомельскага універсітэта імя Ф. Скарыны
Лабаранта кафедры беларускай мовы
Фраловай Наталлі Іванаўны

*ЗАЯВА*

Прашу даць мне часткова аплатны адпачынак па догляду за дзіцем ва ўзросце да паўтара года.

Прыкладаю копію пасведчання аб нараджэнні сына.

20 мая 1992 г. **Н. І. Фралова**

**Дырэктару завода пускавых рухавікоў**

Камлюка Васіля Пятровіча,
які пражывае па адрасу:
г. Гомель, Сасновая, 5, кв. 16

*ЗАЯВА*

Прашу прыняць мяне на работу па тэрміноваму працоўнаму дагавору з1 ліпеня 1992 г. па 1 ліпеня 1994 г. на пасаду начальніка цэха з поўнай матэрыяльнай адказнасцю.

25 чэрвеня 1992 г. **В. П. Камлюк**

**Дырэктару шклозавода**

рабочай цэха № 1
Назарэвіч Антаніны Сідараўны

*ЗАЯВА*

Прашу перанесці тэрмін чарговага адпачынку на верасень месяц у сувязі з набыццём пуцёўкі ў санаторый.

10 чэрвеня 1992 г. **А. С. Назарэвіч**



**Дырэктару фабрыкі „8 сакавіка"**

майстра цэха № 2
Сурмаковай Тацццяны Іванаўны

*ЗАЯВА*

Прашу даць мне часткова аплатны адпачынак па догляду за дзіцем ва ўзросце да трох гадоў. Абавязуюся ў выпадку ўладкавання сына ў дзіцячую дашкольную ўстанову тэрмінова паведаміць.

10.06.92 г. **Т. І. Сурмакова**

**РАСПІСКА**

**Распіска – дакумент, які пацвярджае атрыманне чаго-небудзь.**

*РАСПІСКА*

Я, начальнік цэха № 5 Крупенька Іван Антонавіч, атрымаў у бухгалтэрыі завода 10000 (дзесяць) тысяч рублёў – прэмію на ўвесь цэх.

14 ліпеня 1992 г. **І. А. Крупенька**

*РАСПІСКА*

Я, рабочая цэха № 1 Грыцанок Святлана Пятроўна, 28 чэрвеня 1992 г. атрымала ад загадчыцы склада фабрыкі 1 (адну) брызентавую палатку і 3 (тры) рукзакі.

Пасля 20 ліпеня ўсё атрыманае вярну на склад.

28 чэрвеня 1992 г. **С. П. Грыцанок**

**СПРАВАЗДАЧА**

**Справаздача – пісьмовае або вуснае паведамленне кіраўніку пэўнай установы пра сваю работу, выкананне якога-небудзь задання.**

## *СПРАВАЗДАЧА*

### *выкладчыка кафедры беларускай мовы Казачэнка Т. М. пра вынікі работы за 1985 – 1990 гады*

Асноўнымі відамі вучэбнай нагрузкі на працягу 1985 – 1990 гг былі курсы ,,Уводзіны ў мовазнаўства'' і ,,Дыялекталогія'', спецкурс ,,Гісторыя развіцця беларускага мовазнаўства'', спецсемінар ,,Лінгвістычны аналіз мастацкага тэксту'', якія чытала студэнтам стацыянара і завочнага факультэта. У працэсе чытання лекцыйных курсаў старалася паведаміць студэнтам навейшыя звесткі па гэтых дысцыплінах, сістэматычна ўводзіла студэнтаў у курс лінгвістычных дыскусій, што вяліся ў апошнія гады. Штогод кіравала падрыхтоўкай дыпломных і напісаннем курсавых работ на стацыянары і завочным факультэце. Уся вучэбная і метадычная дакументацыя (экзаменацыйныя білеты, тэматыка дыпломных і курсавых работ, рабочыя праграмы) штогод абнаўляліся, удасканальваліся.

Усе гады кіравала актыўнай педагагічнай практыкай студэнтаў ІУ-У курсаў у базавых школах г. Гомеля, а таксама дыялекталагічнай практыкай студэнтаў другога курса, якую яны праходзілі ў розных раёнах Гомельскай вобласці.

У 1985 – 90 гг. працавала над выкананнем планавай дзяржбюджэтнай тэмы, па якой напісала, надрукавала і падрыхтавала да друку 5 артыкулаў і тэзісы. Выступала з паведамленнем на рэспубліканскай канферэнцыі ў г. Мінску, рэцэнзавала і прымала ўдзел у абмеркаванні навуковай і вучэбнай літаратуры, кіравала студэнцкімі навуковымі работамі, якія на рэспубліканскіх конкурсах атрымлівалі першую катэгорыю і грашовыя прэміі.

Усе гады з'яўлялася куратарам акадэмічнай групы, праводзіла гутаркі, экскурсіі па горадзе і рэспубліцы ў адпаведнасці з планам работы куратара.

12.09.1991 г. **Т. М. Казачэнка.**



## ЗМЕСТ

## ДА ВЕДАМА КІРАЎНІКОЎ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ
## г. Гомеля

Прапануем свае паслугі па кваліфікаванаму перакладу на беларускую мову афіцыйна-дзелавой дакументацыі.

**Наш адрас:**

**г. Гомель, вул. Савецкая, 108.**
**Універсітэт імя Ф. Скарыны.**
**Кафедра беларускай мовы.**
Тэл. 56-22-65



## ДЛЯ ЗАМЕТОК

